


ПРАЛЕТАРЫІ ЎСІХ КРАІН, ЯДНАЙЦЕСЯ!

# ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ОРГАН МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ І ПРАЎЛЕННЯ САЮЗА ПІСЬМЕННІКАЎ БССР

№ 83 (1617) | Пятніца, 20 кастрычніка 1961 года | Цана 4 кап.

**Дзеячы літаратуры і мастацтва! Ярчэй адлюстроўвайце ў сваіх творах веліч і прыгажосць гераічных спраў савецкага чалавека! Змагайцеся за высокую ідэйнасць твораў і мастацкае майстэрства, за цесную, непарыўную сувязь літаратуры і мастацтва з жыццём народа, з задачамі камуністычнага будаўніцтва!**

(З Заклікаў ЦК КПСС да 44-й гадавіны Вялікай Кастрычніцкай сацыялістычнай рэвалюцыі).

# З'ЕЗД БУДАЎНІКОЎ КАМУНІСТЫЧНАГА ГРАМАДСТВА

## ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ПАВЕДАМЛЕННЕ

### аб XXII з'ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза

**17 кастрычніка, у 10 гадзін раніцы, у Маскве, у Крамлёўскім Палацы з'ездаў пачаў работу чарговы XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза.**

**З'езд адкрыў уступнай прамовай Першы сакратар ЦК КПСС таварыш М. С. Хрушчоў.**

**З'езд выбраў Прэзідыум з'езда, Сакратарыят, Рэдакцыйную камісію і Мандатную камісію.**

**Зацвярджаецца наступны парадак дня з'езда:**

**1. Справаздача Цэнтральнага Камітэта КПСС— дакладчык Першы сакратар ЦК КПСС тав. М. С. Хрушчоў.**

**2. Справаздачны даклад Цэнтральнай Рэвізійнай камісіі КПСС — дакладчык старшыня Цэнтральнай Рэвізійнай камісіі тав. А. Ф. Горкін.**

**3. Праект Праграмы КПСС — дакладчык тав. М. С. Хрушчоў.**

**4. Аб змяненнях у Статуце КПСС — дакладчык Сакратар ЦК КПСС тав. Ф. Р. Казлоў.**

**5. Выбары цэнтральных органаў партыі.**

**Са справаздачай Цэнтральнага Камітэта КПСС выступіў Першы сакратар ЦК КПСС тав. М. С. Хрушчоў, горача сустрэты дэлегатамі і гасцямі з'езда.**

**Затым з'езд заслухаў справаздачны даклад Цэнтральнай Рэвізійнай камісіі КПСС, з якім выступіў старшыня Цэнтральнай Рэвізійнай камісіі КПСС тав. А. Ф. Горкін.**

* * *

17 кастрычніка 1961 года. Маскоўская раніца. Крэмль. Родны, прывычны, з рубінамі чырвоных зорак. Цвет партыі, усяго савецкага народа, лепшыя людзі краіны прыйшлі сёння сюды, у новае цудоўнае збудаванне са шкла і мармуру — Крамлёўскі Палац з'ездаў. Ветэраны рэвалюцыйных баёў, героі першых пяцігодак, ініцыятары цудоўных здзяйсненняў апошніх гадоў, калі савецкія людзі, здзіўляючы свет, першымі вырваліся ў космас, сабраліся на найвялікшы камуністычны форум, каб прыняць першую ў гісторыі чалавецтва праграму пабудовы камунізма.

Мільёны рабочых на прадпрыемствах, будоўлях і транспарце, калгаснае сялянства, савецкая інтэлігенцыя з выключным уздымам рыхтаваліся да гэтага дня, прысвячалі яму сваю натхнёную стваральную працу. Уся наша вялікая Радзіма, якая ўпэўнена ідзе да светлых вышынь камунізма, сустрэла XXII з'езд партыі як самае вялікае і радаснае свята.

Да з'езда КПСС прыкавана ўвага ўсяго свету. Прагрэсіўнае чалавецтва вітае наш народ, нашу партыю як сцяганосца новай эпохі, вяшчальніка высакародных гуманістычных ідэалаў. Велізарную цікавасць у свеце выклікаў праект новай Праграмы КПСС — гэты Маніфест Камунізма, які ўсталёўвае на зямлі Мір, Працу, Свабоду, Роўнасць, Брацтва і Шчасце ўсіх народаў.

Час набліжаецца к дзесяці гадзінам. Цёпла вітаюць дэлегаты з'езда кіраўнікоў раду дэлегацый братніх марксісцка-ленінскіх партый, якія займаюць месцы ў прэзідыуме.

Роўна 10 гадзін раніцы. Бурнымі, працяглымі апладысментамі сустракае з'езд з'яўленне членаў Прэзідыума Цэнтральнага Камітэта КПСС — баявога штаба нашай вялікай партыі. Усе ўстаюць.

З велізарнай увагай слухаюць дэлегаты і госці ўступную прамову Першага сакратара ЦК КПСС таварыша Мікіты Сяргеевіча Хрушчова.

— XX чарговы з'езд нашай партыі,— гаворыць М. С. Хрушчоў, — адбыўся ў лютым 1956 года. З таго часу прайшло больш пяці з палавінай гадоў. У жыцці і дзейнасці партыі, усіх народаў Савецкага Саюза, як і ва ўсім сусветным развіцці, гэты важны перыяд часу быў насычан падзеямі гістарычнага значэння. XXI з'езд — нечарговы — прыняў пастанову аб скліканні чарговага з'езда ў 1961 годзе. У адпаведнасці з гэтым рашэннем сёння пачынае сваю работу XXII з'езд партыі.

На XXII з'езд партыі выбрана 4.408 дэлегатаў з рашаючым голасам і 405 дэлегатаў з дарадчым голасам. Прыбыло на з'езд 4.394 дэлегаты з рашаючым голасам і 405 дэлегатаў з дарадчым голасам. Адсутнічаюць па ўважлівых прычынах 14 дэлегатаў.

Па даручэнню Цэнтральнага Камітэта таварыш М. С. Хрушчоў уносіць прапанову пачаць работу з'езда і аб'яўляе XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза адкрытым.

Таварыш М. С. Хрушчоў гаворыць, што за час, які прайшоў пасля XXI з'езда, міжнародны камуністычны рабочы рух страціў рад выдатных дзеячоў і сярод іх—нашых незабыўных таварышаў Вільгельма Піка, Уільяма Фостэра, Гары Політа, Юджына Дэніса, Вацлава Капецкага, Эліаса Лафертэ, Фараджала Хелу, Гастона Манмусо.

У барацьбе супраць каланіялізму загінуў выдатны дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху Афрыкі Патрыс Лумумба.

Ад рукі подлага фашысцкага забойцы, найміта імперыялістаў загінуў таварыш Інэдзіра Асанума, старшыня Сацыялістычнай партыі Японіі, відны грамадскі дзеяч і барацьбіт за мір і дэмакратыю.

Таварыш М. С. Хрушчоў прапануе ўшанаваць іх памяць мінутай маўчання.

Таварыш М. С. Хрушчоў паведамляе, што на XXII з'езд партыі прыбылі дэлегацыі ад 80 зарубежных марксісцка-ленінскіх партый. Ад імя з'езда ён горача вітае дэлегацыі дружалюбных братніх партый, а таксама перадае сяброўскае, сардэчнае прывітанне прысутным на з'ездзе дарагім гасцям — прадстаўнікам дэмакратычных нацыянальных партый незалежных дзяржаў Афрыкі. І кожны раз, як толькі М. С. Хрушчоў называе дэлегацыю і яе кіраўніка, у зале раздаюцца гарачыя апладысменты.

З'езд пачынае фарміраванне кіруючых органаў: Прэзідыума, Сакратарыята, Рэдакцыйнай і Мандатнай камісій.

Па пытанню аб складзе Прэзідыума з'езда слова даецца прадстаўніку Украінскай партыйнай арганізацыі І. П. Казанцу. Па даручэнню Савета прадстаўнікоў дэлегацый ён уносіць прапанову выбраць Прэзідыум з'езда ў складзе 41 чалавека. Прэзідыум выбіраецца аднагалосна.

Слова даецца прадстаўніку Маскоўскай партыйнай гарадской арганізацыі П. Н. Дзёмічаву. Па даручэнню Савета прадстаўнікоў дэлегацый ён уносіць прапанову выбраць Сакратарыят з'езда ў колькасці 19 чалавек. Сакратарыят выбіраецца аднагалосна.

Слова даецца прадстаўніку Ленінградскай партыйнай арганізацыі І. В. Спірыдонаву. Па даручэнню Савета прадстаўнікоў дэлегацый ён уносіць прапанову выбраць Рэдакцыйную камісію з'езда ў колькасці 15 чалавек. Рэдакцыйная камісія выбіраецца аднагалосна.

Прадстаўнік партыйнай арганізацыі Узбекістана Ш. Р. Рашыдаў па даручэнню Савета прадстаўнікоў дэлегацый уносіць прапанову выбраць Мандатную камісію з'езда ў колькасці 35 чалавек. Прапанова гэтая прымаецца, і камісія выбіраецца аднагалосна.

Затым зацвярджаецца парадак дня з'езда.

Старшынствуючы на пасяджэнні тав. Ф. Р. Казлоў дае слова для справаздачы Цэнтральнага Камітэта КПСС Першаму сакратару ЦК КПСС тав. М. С. Хрушчову. Дэлегаты і госці гарачымі апладысментамі сустракаюць Мікіту Сяргеевіча Хрушчова. Усе ўстаюць.

Затым на вячэрнім пасяджэнні быў заслухан справаздачны даклад з'езду Цэнтральнай Рэвізійнай камісіі КПСС, які зрабіў старшыня Рэвізійнай камісіі тав. А. Ф. Горкін.

18 кастрычніка XXII з'езд Камуністычнай партыі Савецкага Саюза працягваў сваю работу.

Старшынствуючы тав. М. А. Суслаў, адкрываючы ранішняе пасяджэнне, прапануе заслухаць даклад аб праекце Праграмы КПСС з тым, каб абодва даклады — справаздачу Цэнтральнага Камітэта і даклад аб праекце Праграмы КПСС — абмяркоўваць адначасова. З'езд прымае гэтую прапанову.

Слова для даклада аб праекце Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза даецца Першаму сакратару Цэнтральнага Камітэта партыі таварышу М. С. Хрушчову. З'яўленне на трыбуне М. С. Хрушчова ўсе ўдзельнікі з'езда сустракаюць гарачымі працяглымі апладысментамі.

Даклад тав. М. С. Хрушчова, які працягваўся на працягу ранішняга і вячэрняга пасяджэнняў, быў выслухан з вялікай увагай і неаднаразова перапыняўся бурнымі апладысментамі.

Вялікі план нашай партыі — план пабудовы камуністычнага грамадства цалкам захапіў увагу прысутных у зале. Кожны з дэлегатаў з пачуццём глыбокай радасці ўсведамляў, што яму выпала гістарычная місія ад імя мільёнаў зацвердзіць новую Праграму КПСС і прыняць самы актыўны ўдзел у яе выкананні, ажыццявіць запаветную мэту партыі, усяго савецкага народа.

Пасля заканчэння даклада дэлегаты і госці з'езда ў аднадушным парыве ўстаюць і наладжваюць працяглую авацыю. Раздаюцца воклічы «Ура!», «Няхай жыве Камуністычная партыя!», «Няхай жыве ленінізм!», «Няхай жыве ленінскі Цэнтральны Камітэт!», «Няхай жыве камунізм!».

19 кастрычніка з'езд працягваў сваю работу.

## Справаздача Цэнтральнага Камітэта КПСС XXII з'езду Камуністычнай партыі Савецкага Саюза

### *Даклад Першага сакратара ЦК КПСС таварыша М. С. ХРУШЧОВА*

Пачынаючы справаздачны даклад Цэнтральнага Камітэта КПСС, Першы сакратар ЦК КПСС таварыш М. С. Хрушчоў гаворыць, што мінуўшыя пасля XX з'езда Камуністычнай партыі Савецкага Саюза шэсць гадоў мелі для нашай партыі, для савецкага народа, для ўсяго чалавецтва выключнае, можна сказаць, сусветна-гістарычнае значэнне. Савецкая Радзіма ўступіла ў перыяд разгорнутага будаўніцтва камунізма па ўсім шырокім фронце вялікіх работ. Эканоміка і культура Савецкага Саюза знаходзяцца на крутым уздыме. Паспяхова выконваецца сямігадовы план — план магутнага развіцця прадукцыйных сіл нашай Радзімы.

Сацыялізм усталяваўся ў рамках усёй сусветнай сацыялістычнай садружнасці. Важнейшыя падзеі мінулых год былі адлюстраваннем галоўнай заканамернасці нашага часу: імкліва ішоў працэс нарастання і ўмацавання жыццёвых сіл сусветнай сістэмы сацыялізма.

Дзейнасць нашай партыі і дзяржавы адбывалася ў складанай міжнароднай абстаноўцы. Не раз імперыялісты спрабавалі паставіць свет на небяспечную грань вайны, праверыць сілу Савецкага Саюза і мужнасць яго народаў. Многія буржуазныя палітычныя дзеячы цешылі сябе ілюзіямі: ці не правалімся мы са сваімі планамі, ці не распадзецца сацыялістычны лагер. Яны задумвалі супраць нас нямала правакацый і дыверсій. Партыя, увесь савецкі народ выкрывалі падкопы ворагаў і з гонарам выходзілі з усіх выпрабаванняў. Сёння Савецкі Саюз больш моцны і дужы, чым калі б там ні было!

Жыццё поўнасцю пацвердзіла правільнасць тэарэтычных вывадаў і палітычнага курсу партыі, яе генеральнай лініі. Да свайго XXII з'езда дзесяцімільённая партыя камуністаў Савецкага Саюза прыйшла адзінай і згуртаванай, непарыўна звязанай з савецкім народам. Жывым увасабленнем адзінства партыі і народа, іх волі і дум з'яўляюцца пяць тысяч дэлегатаў з'езда — лепшыя сыны і дочкі вялікай Ленінскай партыі.

М. С. Хрушчоў адзначае, што прэстыж і аўтарытэт Савецкай дзяржавы на міжнароднай арэне яшчэ больш узрос. Нарады прадстаўнікоў камуністычных і рабочых партый далі высокую ацэнку ролі КПСС у міжнародным камуністычным і рабочым руху. Ад імя з'езда, ад імя ўсіх камуністаў Савецкага Саюза ён выказвае братнім партыям гарачую ўдзячнасць за давер'е да нашай партыі, запэўняе дарагіх гасцей — дэлегатаў братніх партый, што КПСС і ў далейшым будзе выконваць свой інтэрнацыянальны абавязак перад працоўнымі ўсіх краін, перад усім прагрэсіўным чалавецтвам.

### I.

### Сучасная сусветная абстаноўка і міжнароднае становішча Савецкага Саюза

Вялікі раздзел даклада прысвячаецца аналізу сучаснай сусветнай абстаноўкі і міжнароднаму становішчу Савецкага Саюза. М. С. Хрушчоў указвае, што спаборніцтва дзвюх сусветных сацыяльных сістэм— сацыялістычнай і капіталістычнай—стала стрыжнем, асновай сусветнага развіцця на сучасным гістарычным этапе. У грамадскім развіцці ўсё больш выразна праяўляліся дзве лініі, дзве гістарычныя тэндэнцыі. Адна—лінія сацыяльнага прагрэсу, міру і стварэння. Другая — лінія рэакцыі, прыгнечання і вайны.

Няўхільна праводзячы палітыку міру, мы не забывалі аб пагрозе вайны з боку імперыялістаў. Той факт, што вайну ўдалося прадухіліць і савецкія людзі, народы іншых краін маглі карыстацца дабротамі мірнага жыцця, патрэбна разглядаць як галоўны вынік дзейнасці партыі, яе Цэнтральнага Камітэта па нарошчванню магутнасці Савецкай дзяржавы, ажыццяўленню ленінскай знешняй палітыкі, як вынік дзейнасці братніх партый краін сацыялізма, актывізацыі міралюбівых сіл усіх краін.

У ходзе мірнага спаборніцтва дзвюх сістэм капіталізм пацярпеў глыбокае маральнае паражэнне ў вачах усіх народаў. Простыя людзі штодзённа пераконваюцца ў тым, што капіталізм не ў стане вырашыць ніводнай з наспеўшых праблем, якія стаяць перад чалавецтвам. Усё больш відавочна, што толькі на шляхах сацыялізма можна знайсці вырашэнне гэтых праблем.

Падзеі паказваюць, што курс нашай партыі, выпрацаваны на XX з'ездзе, быў правільным. Дакладчык характарызуе асаблівасці мінуўшага этапа гістарычнага развіцця сусветнай сістэмы сацыялізма, эканоміка якой працягвае развівацца непараўнаўча больш высокімі тэмпамі, чым эканоміка капіталізму. Сацыялістычныя краіны ў 1960 годзе павялічылі аб'ём прамысловай вытворчасці ў параўнанні з 1937 годам у 6,8 раза, у той час як капіталістычныя краіны—менш чым у 2,5 раза. Доля краін сацыялізма ў сусветнай прамысловай вытворчасці, якая складала ў 1955 годзе 27 працэнтаў, павысілася ў 1960 годзе прыкладна да 36 працэнтаў.

Маральнае і палітычнае адзінства народа, якое ўпершыню склалася ў нашай краіне, мацнее ва ўсіх сацыялістычных краінах. Наш народ з глыбокай сімпатыяй успрымае поспехі ў сацыялістычным будаўніцтве вялікага кітайскага народа, іншых братніх народаў і жадае ім новых слаўных перамог. Цяпер, з завяршэннем важнага этапа сацыяльнай перабудовы, у сацыялістычных краінах створаны яшчэ больш спрыяльныя ўмовы для далейшага росту эканомікі і культуры, для павышэння дабрабыту працоўных.

Затым М. С. Хрушчоў гаворыць аб працэсе братняга збліжэння сацыялістычных краін, іх палітычнай і гаспадарчай кансалідацыі, аб прамым вытворчым супрацоўніцтве.

Галоўнае цяпер заключаецца ў тым, каб, няўхільна развіваючы эканоміку ўсіх і кожнай сацыялістычнай краіны, дабіцца перавагі сусветнай сістэмы сацыялізма над капіталістычнай па абсалютнаму аб'ёму вытворчасці. Гэта будзе вялікая гістарычная перамога сацыялізма.

Наша партыя ясна разумее свае задачы, сваю адказнасць і зробіць усё, што ад яе залежыць, каб сусветная сістэма сацыялізма і ў далейшым мацнела, набірала сілы і развівалася. Мы верым, што ў спаборніцтве з капіталізмам перамога будзе за сацыялізмам. Мы верым, што гэтая перамога будзе атрымана ў мірным спаборніцтве, а не на шляхах развязвання вайны. Мы стаялі, стаім і будзем стаяць на пазіцыях мірнага суіснавання дзяржаў з розным сацыяльным ладам, будзем рабіць усё для ўмацавання міру ва ўсім свеце.

Спыняючыся на становішчы ў краінах капіталізму, Мікіта Сяргеевіч Хрушчоў адзначае далейшае абвастрэнне супярэчнасцей як унутры гэтых краін, так і паміж імі. Агульная тэндэнцыя далейшага загнівання капіталізму працягвала дзейнічаць з няўмольнай сілай. Ён гаворыць аб велізарных расходах дзяржаў НАТО на гонку ўзбраенняў, аб масавым беспрацоўі, аб сур'ёзных зменах у суадносінах сіл унутры капіталістычнага свету. Буйныя супярэчнасці раздзяляюць ЗША з Англіяй і іншымі імперыялістычнымі дзяржавамі. Яны праяўляюцца і ў НАТО, і ў іншых агрэсіўных блоках. Імперыялісты ЗША выступаюць у саюзе з заходнегерманскімі мілітарыстамі і рэваншыстамі, пагражаючы міру і бяспецы народаў.

У дакладзе вялікая ўвага ўдзяляецца задачы ліквідацыі рэшткаў каланіяльнай сістэмы, барацьбе працоўных краін капіталу за свае эканамічныя і сацыяльныя правы, дзейнасці камуністычных партый. Барацьба краін сацыялізма і ўсіх міралюбівых сіл супраць падрыхтоўкі новай агрэсіі і вайны складае галоўны змест сучаснай сусветнай палітыкі.

Пераходзячы да міжнародных праблем, якія патрабуюць неадкладнага вырашэння, М. С. Хрушчоў гаворыць, што важнейшай састаўной часткай знешнепалітыч-

(Заканчэнне на 2-й стар.).

# АБ ПРАГРАМЕ КАМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ САВЕЦКАГА САЮЗА

## Даклад таварыша М. С. ХРУШЧОВА

### *на XXII з'ездзе Камуністычнай партыі Савецкага Саюза 18 кастрычніка 1961 года*

XX з'езд, гаворыць таварыш М. С. Хрушчоў, даручыў Цэнтральнаму Камітэту падрыхтаваць праект новай Праграмы Камуністычнай партыі Савецкага Саюза. Цэнтральны Камітэт выканаў гэтае даручэнне і пасля абмеркавання праекта Праграмы партыяй, народам выносіць яго на разгляд з'езда.

Наш з'езд увойдзе ў гісторыю як з'езд будаўнікоў камунізма. З гэтай трыбуны першыя словы любві і адданасці мы звяртаем да геніяў чалавецтва, вялікіх правадыроў рабочага класа — Маркса, Энгельса, Леніна. Сацыялізм, непазбежнасць якога была навукова прадказана Марксам і Энгельсам, сацыялізм, план пабудовы якога вызначыў Ленін, стаў у Савецкім Саюзе рэчаіснасцю. Цяпер наша краіна ідзе да новых вышынь — вышынь камунізма.

XX век — век трыумфальных перамог камунізма. У першай палавіне стагоддзя на нашай планеце трывала ўсталяваўся сацыялізм, у другой палавіне стагоддзя на ёй усталюецца камунізм.

Шлях да гэтага ўказвае новая Праграма нашай партыі, якую справядліва называюць Камуністычным маніфестам сучаснай эпохі.

У праекце Праграмы ўвасоблена калектыўная думка партыі. Усе савецкія людзі гавораць: гэта наша праграма, яна адпавядае нашым спадзяванням і імкненням.

Ідэі праграмы адлюстроўваюць светлыя мары ўсяго чалавецтва. Праект Праграмы КПСС горача адобран братнімі партыямі. Яго з вялікім натхненнем сустрэлі пралетарыі, працоўныя ўсяго свету. І гэта гаворыць аб сіле камунізма, аб вялікім значэнні нашай праграмы для лёсу чалавецтва.

## I. Гістарычныя перамогі сацыялізма

М. С. Хрушчоў характарызуе асноўныя этапы вялікага шляху, які прайшла наша краіна пасля кастрычніка 1917 года, гаворыць аб поспехах у індустрыялізацыі і калектывізацыі, развіцці культуры і навукі.

У сацыяльнай галіне партыя ажыццявіла спрадвечныя спадзяванні народных мас. Вырашана складанейшая праблема — узаемаадносін паміж нацыямі. У СССР склалася новая гістарычная агульнасць людзей розных нацыянальнасцей, якія маюць агульныя характэрныя рысы, — савецкі народ.

Карэнным чынам змяніліся ўмовы жыцця людзей. Грозны біч працоўных — беспрацоўе — даўно знішчан. Рэальная заработная плата рабочых і служачых з улікам ліквідацыі беспрацоўя і скарачэння рабочага дня павялічылася за гады Савецкай улады ў 5,8 раза, рэальныя даходы сялян — больш чым у шэсць разоў. Кватэрная плата ў СССР — самая нізкая ў свеце. Ажыццяўляецца закон аб адмене падаткаў. Сярэдняя працягласць жыцця чалавека павялічылася да 69 гадоў.

З перамогай сацыялізма адбыліся каласальныя змяненні ў характары грамадскага развіцця. Параўноўваючы палітычную карту свету ў 1919 годзе і ў нашы дні, дакладчык прыводзіць такія лічбы: калі к 1919 году сацыялістычны свет займаў усяго 16,0 працэнта плошчы з 7,8 працэнтамі насельніцтва, то к 1961 году сацыялістычны свет займаў ужо 25,9 працэнта плошчы з 35,5 працэнтамі насельніцтва. Буйныя імперыялістычныя дзяржавы (ЗША, Англія, Германія — ФРГ, Францыя, Японія, Італія) і іх калоніі займалі к 1919 году 44,5 працэнта плошчы з 48,1 працэнта насельніцтва, а к 1961 году — 13,7 працэнта плошчы, 17,9 працэнта насельніцтва. К 1919 году — 69,2 працэнта насельніцтва жыло ў калоніях, паўкалоніях і дамініёнах; к 1961 году гэтая лічба знізілася да 2,8 працэнта.

Гэтае параўнанне сведчыць аб тым, што вялікія рэвалюцыйныя сілы сучаснасці рашаючым чынам змянілі аблічча свету, імперыялізм беззваротна страціў панаванне над большай часткай народаў. Вызначылася галоўная магістраль, па якой ідзе ўперад чалавецтва. Магістраль гэтая — сацыялізм.

М. С. Хрушчоў спыняецца на выніках паступальнага развіцця грамадства ў нашу эпоху. Асноўны вынік — утварэнне сусветнай сацыялістычнай сістэмы. Цяпер ужо вопытам не адной краіны, а вялікай групы дзяржаў пацверджана непазбежнасць змены капіталістычнага ладу сацыялістычным, даказаны рашаючыя перавагі сацыялізма.

Другі па свайму гістарычнаму значэнню вынік сусветнага развіцця — крах каланіяльнай сістэмы. На абломках каланіяльных імперый узніклі 42 суверэнныя дзяржавы.

Трэці вынік сусветнага развіцця — рэзкае ўсебаковае аслабленне капіталізму і новае абвастрэнне яго агульнага крызісу. Тэмпы эканамічнага развіцця капіталістычнай сістэмы замаруджваюцца, ледзь апярэджваючы ў радзе краін рост насельніцтва, эканамічныя крызісы пачашчаюцца, асабліва ў ЗША. Да велізарных памераў разросся мілітарызм. 15—20 працэнтаў нацыянальнага даходу выдаткоўваецца на ўзбраенне.

На сродкі, выдаткаваныя на войны і падрыхтоўку да іх за першую палавіну XX стагоддзя, можна было б бясплатна карміць хлебам паўстагоддзя ўсё насельніцтва нашай планеты. На гэтыя сродкі можна было б пабудаваць добраўпарадкаванае жыллё для 500 мільёнаў сем'яў, гэта значыць дзвюх трэцей насельніцтва свету.

Калі сумiраваць галоўныя вынікі сусветнага развіцця, то можна сказаць: гісторыя рухаецца так, як прадказалі Маркс і Ленін. Сілы сацыялізма, усе сілы сусветнага прагрэсу нарастаюць, народы ўсё больш рашуча рвуць з імперыялізмам. Пагібель імперыялізму і перамога сацыялізма ў сусветным маштабе непазбежныя.

## II. Камунізм — вялікая мэта партыі і народа

Прыняцце трэцяй Праграмы знамянуе новую вяху ў гісторыі развіцця партыі і ўсяго савецкага грамадства. Праграмы КПСС можна параўнаць з трохступеньчатай ракетай. Першая ступень вырвала нашу краіну з капіталістычнага свету, другая — узняла яе да сацыялізма, а трэцяя — заклікана вывесці на арбіту камунізма.

У дакладзе характарызуюцца асноўныя рысы праекта новай Праграмы. Галоўнае заключаецца ў тым, што гэта — канкрэтная, навукова абгрунтаваная Праграма будаўніцтва камунізма. Яна знамянуе новы этап у развіцці рэвалюцыйнай тэорыі Маркса, Энгельса, Леніна, дае ясны адказ на ўсе карэнныя пытанні тэорыі і практыкі барацьбы за камунізм.

Увесь дух, увесь змест праекта адлюстроўваюць адзінства і непарыўнасць тэорыі марксізма-ленінізма і практыкі камуністычнага будаўніцтва. У ёй знайшоў поўнае ажыццяўленне лозунг: «Усё ў імя чалавека, для шчасця чалавека».

Праект Праграмы зыходзіць з новых міжнародных умоў: будаўніцтва камунізма разгортваецца не ў капіталістычным акружэнні, а ў абстаноўцы існавання сусветнай сістэмы сацыялізма, узрастаючай перавагі сіл сацыялізма над сіламі імперыялізму, сіл міру над сіламі вайны.

Праграма прасякнута духам сацыялістычнага інтэрнацыяналізму, сапраўднага камуністычнага гуманізму, ідэямі міру і брацтва паміж народамі.

М. С. Хрушчоў называе асноўныя рысы камуністычнага грамадства. Камунізм прадугледжвае высокаарганізаваную і цэнтралізаваную ў маштабах усяго грамадства вытворчасць, кіраўніцтва якой ажыццяўляецца на аснове самых шырокіх дэмакратычных прынцыпаў. Камуністычнае грамадства, як ніякае іншае, будзе мець патрэбу ў адзіным планаванні народнай гаспадаркі, у арганізаваным размеркаванні працы і рэгуляванні рабочага часу. Развіццё камуністычнай гаспадаркі немагчыма без самага актыўнага ўдзелу ўсяго народа ў кіраванні вытворчасцю.

Гістарычныя рамкі праекта Праграмы — 20 гадоў. За гэты час у галіне эканамічнай будзе створана матэрыяльна-тэхнічная база камунізма; у галіне сацыяльных адносін будзе адбывацца ліквідацыя існуючых яшчэ рэшткаў розніцы паміж класамі, зліццё іх у бяскласавае грамадства працаўнікоў камунізма, у асноўным будуць ліквідаваны істотныя адрозненні паміж горадам і вёскай, а затым паміж фізічнай і разумовай працай, узрасце эканамічная і ідэйная супольнасць нацый, разаўюцца рысы чалавека камуністычнага грамадства, які будзе гарманічна спалучаць у сабе высокую ідэйнасць, шырокую адукаванасць, маральную чысціню і фізічную дасканаласць; у галіне палітычнай гэта значыць, што ўсе грамадзяне будуць прымаць удзел у кіраванні грамадскімі справамі, у выніку найшырэйшага развіцця сацыялістычнай дэмакратыі грамадства падрыхтуецца да поўнага ажыццяўлення прынцыпаў камуністычнага самакіравання.

## III. Ад сацыялістычнай да камуністычнай эканомікі

На працягу двух дзесяцігоддзяў у СССР будзе створана матэрыяльна-тэхнічная база камунізма. Гэта галоўная эканамічная задача, аснова генеральнай лініі нашай партыі. Гэта дасць нам магчымасць вырашыць важнейшыя задачы: стварыць нябывалыя па сваёй магутнасці прадукцыйныя сілы і заняць першае месца ў свеце па вытворчасці на душу насельніцтва; забяспечыць найвышэйшую ў свеце прадукцыйнасць працы, узброіць савецкіх людзей найбольш дасканалай тэхнікай, ператварыць працу ў крыніцу радасці, натхнення і творчасці; развіць вытворчасць матэрыяльных даброт для задавальнення ўсіх патрэб савецкага чалавека, забяспечыць самы высокі ўзровень жыцця ўсяго насельніцтва, стварыць усе ўмовы для пераходу ў далейшым да размеркавання па патрэбнасцях.

Нарэшце толькі на шляхах пабудовы матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма можна выйграць эканамічнае спаборніцтва з капіталізмам.

Дакладчык адзначае, што для стварэння матэрыяльна-тэхнічнай базы ў нас ёсць усе магчымасці.

Стварэнне матэрыяльна-тэхнічнай базы камунізма запатрабуе велізарных сродкаў. На наступныя 20 гадоў капітальныя ўкладанні ў народную гаспадарку СССР намячаюцца ў суме прыкладна ў два грыльёны рублёў. Але мабілізацыя такіх велізарных сродкаў не будзе звязана з цяжкасцямі і ахвярамі, як гэта было ў перыяд індустрыялізацыі, — і перш за ўсё таму, што ў нашай краіне створана магутная прамысловасць.

У дакладзе гаворыцца аб велізарнай ролі цяжкай прамысловасці ў росце народнага дабрабыту, а таксама ў вырашэнні праблемы накаплення. У той жа час партыя прыкладзе ўсе намаганні да таго, каб цяжкая індустрыя ва ўсёўзрастаючай ступені забяспечыла павелічэнне выпуску прадметаў спажывання.

У наступныя 20 гадоў валавы грамадскі прадукт намячаецца павялічыць прыкладна ў пяць разоў. Выпуск прамысловай прадукцыі ўзрасце не менш чым у 6 разоў, а валавая прадукцыя сельскай гаспадаркі — прыкладна ў 3,5 раза. Праз 20 гадоў СССР будзе выпускаць амаль у два разы больш прамысловай прадукцыі, чым цяпер выпускаецца ва ўсім несацыялістычным свеце.

Ленінская ідэя суцэльнай электрыфікацыі — стрыжань усёй праграмы будаўніцтва камунізма. На працягу 20 гадоў трэба будзе пабудаваць 180 магутных гідраэлектрастанцый, каля 200 раённых цеплавых электрастанцый магутнасцю да трох мільёнаў кілават кожная, а таксама 260 буйных цеплаэлектрацэнтраляў.

Прадугледжваецца велізарнае развіццё машынабудавання. Будзе пабудавана 2.800 новых машынабудаўнічых і металаапрацоўчых прадпрыемстваў, пераважна ва ўсходніх раёнах краіны. 1.900 старых — будуць рэканструяваны. Гэта дазволіць павялічыць агульны аб'ём выпуску прадукцыі машынабудаўнічай і металаапрацоўчай прамысловасці ў 10—11 разоў, у тым ліку выпуск аўтаматычных і паўаўтаматычных ліній — больш чым у 60 разоў.

Выключнае значэнне набывае хімічная індустрыя. Яе прадукцыя пры інтэнсіўным расшырэнні наменклатуры ўзрасце прыкладна ў 17 разоў. У генеральнай перспектыве ўдзяляецца вялікая ўвага паліўнай і металургічнай прамысловасці. Чорная металургія павінна забяспечыць магчымасць выплаўкі сталі ў размеры прыкладна 250 мільёнаў тон у год. Праз 9 год выплаўка сталі ў Савецкім Саюзе ўжо будзе прыкладна на 55 мільёнаў тон перавышаць цяперашні ўзровень выплаўкі ў ЗША.

Дакладчык гаворыць таксама аб задачах развіцця вытворчасці каляровых металаў, будаўнічых матэрыялаў, павелічэння выпуску прадметаў спажывання, павышэння прадукцыйнасці грамадскай працы, паляпшэння размяшчэння прадукцыйных сіл.

Праект Праграмы нашай партыі, працягвае М. С. Хрушчоў, дае глыбокую характарыстыку тых сацыяльных, эканамічных і палітычных змяненняў у вёсцы, якія адбыліся ў выніку перамогі калгаснага ладу, усталявання сацыялістычнай сістэмы сельскай гаспадаркі. Наша партыя можа законна ганарыцца тым, што яна выхавала новага селяніна, які ідзе ў нагу з гераічным рабочым класам і з'яўляецца актыўным будаўніком новага жыцця.

За 20 год агульны аб'ём прадукцыі сельскай гаспадаркі павялічыцца прыкладна ў тры з палавінай раза, валавая вытворчасць збожжа — больш чым у два разы, мяса — амаль у чатыры разы і малака — амаль у тры разы.

У 1960 годзе вытворчасць збожжа складала 8,2 мільярда пудоў. У 1970 годзе яго будзе вырашчана да 14 мільярдаў, а к 1980 году — 18—19 мільярдаў пудоў. К 1980 году прадстаіць давесці закупкі збожжа да 7 мільярдаў пудоў!

Вялікая ўвага ўдзелена ў дакладзе ірыгацыі, арашэнню палёў. Ажыццявіўшы праграму ірыгацыйнага будаўніцтва, наша краіна зможа атрымаць дадаткова мільёны тон бавоўны, кукурузы, рысу, цукровых буракоў і многа прадуктаў жывёлагадоўлі.

Адной з самых важных задач з'яўляецца барацьба за далейшую механізацыю і электрыфікацыю сельскай гаспадаркі, літаральна ва ўсіх яе звеннях, за лепшае выкарыстанне тэхнікі. Неабходна прыняць сур'ёзныя меры для далейшага развіцця трактарнага і сельскагаспадарчага машынабудавання.

Сацыялістычная сельская гаспадарка наблізіцца да ўзроўню прамысловасці па тэхнічнай аснашчанасці, арганізацыі вытворчасці. Па меры ўздыму культурна-тэхнічнага ўзроўню калгаснікаў і рабочых саўгасаў і аснашчэння ўсіх галін сельскай гаспадаркі сучаснай тэхнікай сельскагаспадарчая праца ператворыцца ў разнавіднасць індустрыяльнай працы.

У Савецкім Саюзе склаліся дзве формы сацыялістычных прадпрыемстваў у сельскай гаспадарцы — саўгасы і калгасы. Партыя зыходзіць з таго, што будаўніцтва камунізма ў вёсцы пойдзе шляхам развіцця і ўдасканалення абедзвюх форм сацыялістычнай вытворчасці.

Дакладчык падрабязна гаворыць аб уздыме народнага дабрабыту. Ужо на працягу першых дзесяці гадоў усе слаі савецкіх людзей змогуць карыстацца дастаткам, будуць матэрыяльна забяспечаны. Рэальныя даходы ў разліку на душу насельніцтва ўзрастуць за гэты час у два разы, а за 20 гадоў — больш чым у 3,5 раза. Крыніцай такога павышэння рэальных даходаў насельніцтва паслужыць рост нацыянальнага даходу СССР.

На працягу бліжэйшага дзесяцігоддзя будзе пакончана з недахопам жылля. У выніку другога дзесяцігоддзя кожная сям'я будзе забяспечана асобнай добраўпарадкаванай кватэрай.

Краіна будуючагася камунізма стане краінай самага кароткага ў свеце рабочага дня. Адначасова будзе павялічвацца працягласць аплачваемых водпускаў рабочым і служачым да трох тыдняў, а затым і да месяца. Паступова сістэма аплачваемых водпускаў будзе распаўсюджвацца на калгаснікаў. Ужо на працягу бліжэйшага дзесяцігоддзя ў СССР будзе вырашана задача гістарычнага значэння: знікне катэгорыя нізкааплачваемых рабочых і служачых.

Другі шлях уздыму народнага дабрабыту — павелічэнне грамадскіх фондаў спажывання. Партыя намячае далейшае расшырэнне сеткі ўстаноў аховы здароўя, бясплатнае забеспячэнне кожнай сям'і добраўпарадкаваным жыллём і асноўнымі камунальнымі паслугамі.

У праекце Праграмы ўказваецца, што планы ўздыму народнага дабрабыту могуць быць з поспехам выкананы ва ўмовах міру. Наша барацьба за мір — гэта састаўная частка барацьбы за камунізм, за росквіт Савецкай краіны і павышэнне дабрабыту народа.

Для паспяховага вырашэння пастаўленых у праекце Праграмы буйнейшых задач, падкрэсліваецца ў дакладзе, неабходна дабіцца, каб планаванне і гаспадаранне адпавядалі патрабаванням разгорнутага будаўніцтва камунізма.

Глыбокая навуковая распрацоўка праблемы развіцця эканомікі і тэхнікі павінна папярэднічаць складанню планаў, зацвярджэнню гаспадарчых мерапрыемстваў. Гутарка ідзе аб устанаўленні найвыгаднейшых прапорцый у народнай гаспадарцы, найбольш эфектыўным выкарыстанні прыродных рэсурсаў, вытворчых магутнасцей і новай тэхнікі, аб правільным размеркаванні нацыянальнага даходу і капітальных укладанняў, аб мабілізацыі дадатковых крыніц паскарэння тэмпаў гаспадарчага развіцця.

## IV. Развіццё камуністычных грамадскіх адносін і фарміраванне новага чалавека

Пры пераходзе да камунізма, працягвае М. С. Хрушчоў, разам з магутным уздымам прадукцыйных сіл ідзе працэс паступовага перарастання сацыялістычных грамадскіх адносін у камуністычныя. У развіцці СССР настаў той гістарычны перыяд, калі непасрэдна вырашаецца задача стварэння бяскласавага камуністычнага грамадства свабодных і свядомых працаўнікоў.

Найбагацейшы вопыт савецкага грамадства пацвярджае вывады марксізма-ленінізма аб тым, што для ліквідацыі класаў і класавых адрозненняў неабходна: па-першае, скінуць панаванне эксплуататарскіх класаў — памешчыкаў і капіталістаў, знішчыць іх прыватную ўласнасць на сродкі вытворчасці, якая складае эканамічную аснову эксплуатацыі чалавека чалавекам. Па-другое, пераўтварыць аднаасобную дробнатаварную гаспадарку ў буйную калектыўную, завяршыць стварэнне адзінай сацыялістычнай сістэмы гаспадаркі, ліквідаваць апошні эксплуататарскі клас, клас кулакоў. Абедзве гэтыя задачы ўжо вырашаны.

На базе высокага развіцця прадукцыйных сіл і сацыялістычных вытворчых адносін паспяхова вырашаецца і трэцяя задача — пераадоленне класавых адрозненняў паміж рабочымі і сялянамі, істотных адрозненняў паміж горадам і вёскай, стварэнне ўмоў для арганічнага спалучэння фізічнай і разумовай працы.

Агульнанародная ўласнасць складае аснову жыцця ўсяго насельніцтва, у тым ліку і калгаснага сялянства. У той жа час у кааператыўна-калгаснай уласнасці ўзнікаюць і ўмацоўваюцца рысы, характэрныя для агульнанароднага здабытку. Жыццё вядзе да няўхільнага збліжэння агульнанароднай і кааператыўнай форм уласнасці, а ў перспектыве і да ўсталявання адзінай камуністычнай уласнасці і адзінага камуністычнага прынцыпу размеркавання.

У ходзе будаўніцтва камунізма будуць ліквідаваны істотныя адрозненні паміж фізічнай і разумовай працай. Праца рабочых паступова пачынае збліжацца з працай інжынераў, праца перадавікоў сельскай гаспадаркі — з працай спецыялістаў. Аднак сціранне межаў паміж класамі — працэс паступовы і працяглы.

У праекце Праграмы партыі пастаўлена і вырашана новае важнейшае пытанне тэорыі і практыкі камунізма — аб перарастанні дзяржавы дыктатуры рабочага класа ў агульнанародную дзяржаву, аб характары і задачах гэтай дзяржавы і аб яе лёсе пры камунізме. Агульнанародная дзяржава — гэта новы этап у развіцці сацыялістычнай дзяржавы, важнейшая вяха на шляху перарастання сацыялістычнай дзяржаўнасці ў камуністычнае грамадскае самакіраванне. Упершыню ў нас склалася дзяржава, якая з'яўляецца не дыктатурай якога-небудзь аднаго класа, а зброяй усяго грамадства, усяго народа.

У дакладзе ўказваецца, што магутнасць нашага грамадства і дзяржавы ў сувязі з перарастаннем дыктатуры пралетарыята ва ўсенародную дзяржаву не толькі не аслабявае, а, наадварот, у многа разоў узрастае. Побач з пастаянным павелічэннем эканамічнага патэнцыялу, узмацнела і расшырылася сацыяльная база нашай дзяржавы, грамадства стала адзіным і маналітным як ніколі. А ў гэтым галоўная крыніца сілы дзяржавы.

Дзяржава захаваецца яшчэ доўга пасля перамогі першай фазы камунізма. Толькі з пабудовай развітага камуністычнага грамадства ў СССР і пры ўмове перамогі і ўмацавання сацыялізма на міжнароднай арэне адпадае неабходнасць у дзяржаве, і яна адамрэ.

Той факт, што дыктатура пралетарыята перастала быць неабходнай, ні ў якай меры не азначае якога-небудзь аслаблення грамадскага парадку і законнасці. Побач з дзяржаўнымі органамі ў барацьбе супраць антыграмадскіх і злачынных элементаў узрасце роля грамадскіх арганізацый працоўных.

Пераход да камунізма патрабуе пастаяннага паляпшэння дзейнасці дзяржаўнага і гаспадарчага апарату, развіцця ў ім дэмакратычных і грамадскіх асноў. Апарат савецкіх, гаспадарчых і іншых органаў павінен стаць яшчэ больш простым, дзяшовым і аператыўным, своечасова і чула адклікацца на запатрабаванні грамадзян.

Разгортванне сацыялістычнага дэмакратызму звязана з павышэннем ролі грамадскіх арганізацый — прафсаюзаў, камсамола, кааператываў, культурна-асветных аб'яднанняў. Пастаўлена задача прыцягнуць усіх грамадзян да кіравання справамі грамадства.

Прывёўшы пераканаўчыя лічбы і прыклады, М. С. Хрушчоў паказвае далей, што свет сацыялізма няўхільна і паслядоўна ідзе па шляху развіцця і расшырэння дэмакратыі, а свет капіталізму — па шляху ўсё большага звужэння і ўрэзвання нават куцай буржуазнай дэмакратыі.

Ніколі яшчэ рэальная ўлада ў вядучых імперыялістычных дзяржавах не сканцэнтроўвалася ў руках такой вузкай групкі манапалістаў, як цяпер. Самі амерыканцы называлі ўрад Эйзенхаўэра ўрадам вялікага бізнесу: больш чым 20 членаў гэтага ўрада або самі былі мільянерамі, або знаходзіліся на службе ў буйнейшых карпарацый. У англійскім урадзе з 19 міністраў, якія ўваходзяць у кабінет, 12 непасрэдна звязаны з манаполіямі, а ва ўрадзе Адэнаўэра з 18 яго членаў 12 — прамыя прадстаўнікі канцэрнаў і акцыянерных таварystваў.

Выбарчая сістэма ў капіталістычных краінах пастаянна перакройваецца і прыстасоўваецца да таго, каб у максімальнай ступені забяспечыць інтарэсы манаполій і сказіць сапраўдную волю выбаршчыкаў.

Буржуазія ўсё часцей выкарыстоўвае ў барацьбе супраць народа паліцыю і армію. Бізун і куля займаюць усё большае месца ў арсенале «аргументаў» буржуазнай дэмакратыі.

Росквіт дэмакратыі ў сацыялістычных краінах і ўсё большае згортванне і без таго ўрэзанай дэмакратыі ў капіталістычных краінах — такія дзве супрацьлеглыя лініі ў палітычным развіцці сучаснага свету.

Разгорнутае камуністычнае будаўніцтва з'яўляецца новым этапам у развіцці нацыянальных адносін у СССР, адзначае М. С. Хрушчоў. Прадугледжваецца комплекснае развіццё і спецыялізацыя гаспадаркі саюзных рэспублік. Эканоміка кожнай з іх і ў далейшым будзе развівацца як неад'емная частка адзінай эканомікі ўсяго Савецкага Саюза. Збліжэнню нацый і народнасцей садзейнічае і культурнае будаўніцтва, ідэалагічная работа. Узмацняецца ўзаемны абмен духоўнымі багаццямі, што вядзе да фарміравання будучай адзінай агульначалавечай культуры камуністычнага грамадства.

У ходзе разгорнутага будаўніцтва камунізма будзе дасягнута поўнае адзінства нацый, але і пасля таго, як камунізм у асноўным будзе пабудаваны, рана будзе дэклараваць аб зліцці нацый.

У той жа час мы будзем падтрымліваць аб'ектыўны працэс усё больш цеснага збліжэння нацый і народнасцей, які адбываецца ва ўмовах камуністычнага будаўніцтва на базе добраахвотнасці і дэмакратызму.

Вялікае месца ў дакладзе занялі пытанні камуністычнага выхавання і ўсебаковага развіцця асобы, што з'яўляецца важнейшай складанай часткай камуністычнага будаўніцтва. Да задач фарміравання новага чалавека адносяцца: усталяванне камуністычнага светапогляду, свядомых адносін да грамадскага абавязку, сацыялістычнага інтэрнацыяналізму і патрыятызму; працоўнае выхаванне, развіццё камуністычных адносін да працы, умацаванне прынцыпаў камуністычнай маралі, культурнае развіццё, авалоданне асновамі навук, агульная і політэхнічная адукацыя, эстэтычнае і фізічнае выхаванне.

На працягу дваццацігоддзя асноўная маса членаў грамадства атрымае поўную сярэднюю, сярэднюю спецыяльную ці вышэйшую адукацыю. Гэта вялікая, але зусім ажыццявімая задача. У першым дзесяцігоддзі трэба будзе ажыццявіць агульную і політэхнічную сярэднюю (адзінаццацігадовую) адукацыю для ўсіх дзяцей школьнага ўзросту. Неабходна таксама забяспечыць, каб моладзь, якая працуе ў народнай гаспадарцы і не мае сярэдняй адукацыі, атрымала, як мінімум, веды ў аб'ёме васьмігадовай школы.

Важнае значэнне партыя надае далейшаму развіццю ўстаноў грамадскага выхавання: школ-інтэрнатаў, школ падоўжанага дня, дашкольных устаноў.

К 1980 году мяркуецца давесці колькасць студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў да 8 мільёнаў, гэта значыць павялічыць у тры з лішнім раза. Асабліва шырокае распаўсюджанне набываюць вячэрняя і завочная адукацыя.

Трэба будзе пераадолець значнае яшчэ адставанне культурна-тэхнічнага ўзроўню сельскага насельніцтва ад узроўню насельніцтва гарадоў.

У наш век бурнага навукова-тэхнічнага прагрэсу немагчыма развіццё грамадства і чалавечай асобы без планамернага і ўсебаковага выкарыстання дасягненняў навукі. Навука заклікана адказваць на запатрабаванне сённяшняга дня, служыць баявой і дзейснай зброяй у вырашэнні надзённых народнагаспадарчых праблем, у развіцці прадукцыйных сіл грамадства. Справа гонару і патрыятычны абавязак савецкіх вучоных замацаваць за савецкай навукай ужо заваяваныя перадавыя пазіцыі ў важнейшых галінах ведаў і забяспечыць ёй вядучую ролю ў сусветнай навуцы.

Вялікае значэнне ў фарміраванні новага чалавека маюць літаратура і мастацтва. Партыя заклікае ўсіх дзеячоў літаратуры і мастацтва да смелай наватарскай распрацоўкі тэм сучаснасці.

## V. Камунізм і прагрэс чалавецтва

Ажыццяўленне Праграмы нашай партыі акажа самае глыбокае ўздзеянне на ход сусветнай гісторыі, гаворыць М. С. Хрушчоў. Сілай свайго прыкладу будуючыйся камунізм прыцягвае пад сцяг марксізма-ленінізма новыя сотні мільёнаў людзей працы ва ўсім свеце.

Галоўная арэна спаборніцтва сацыялістычнай і капіталістычнай сістэм — мірнае эканамічнае спаборніцтва. Зыход яго будзе ў велізарнай ступені вызначацца спаборніцтвам Савецкага Саюза і Злучаных Штатаў Амерыкі.

Не толькі эканоміка Савецкага Саюза, але і ўсіх краін сусветнай сацыялістычнай сістэмы развіваецца намнога хутчэй, чым эканоміка капіталізму. У параўнанні з даваенным узроўнем краіны сацыялістычнага супрацоўніцтва павялічылі аб'ём прамысловай прадукцыі ў цэлым амаль у сем разоў, а краіны капіталізму — менш чым у два з палавінай раза. Як паказваюць папярэднія разлікі эканамістаў, к 1980 году доля сусветнай сацыялістычнай сістэмы складзе ўжо прыкладна дзве трэці сусветнай прамысловай вытворчасці.

Будаўніцтва камунізма ў нашай краіне — гэта састаўная частка будаўніцтва камуністычнага грамадства ва ўсёй сацыялістычнай садружнасці. Паспяховае развіццё сусветнай сістэмы сацыялізма адкрывае перспектыву больш ці менш адначасовага, у межах адной гістарычнай эпохі, пераходу сацыялістычных краін да камунізма. Для марксістаў-ленінцаў бясспрэчна, што карэнныя інтарэсы сацыялістычных дзяржаў уладарна патрабуюць усямернага ўмацавання іх садружнасці.

У савецкіх людзей самыя дружалюбныя пачуцці да сваіх братоў у сацыялістычных краінах Еўропы і Азіі. Яны дапамагалі і будуць дапамагаць ім у будаўніцтве новага жыцця. Кожны, хто ўзніме руку на сацыялістычныя заваяванні народаў нашай садружнасці, атрымае сакрушальны адпор мільярда будаўнікоў сацыялізма і камунізма.

Камунізм стаў самай вялікай сілай нашага веку. Цяпер камуністычныя партыі дзейнічаюць у 87 краінах свету і аб'ядноўваюць каля 40 мільёнаў чалавек.

Свет перажывае эпоху рэвалюцый. У праекце Праграмы асветлены шляхі мірнага і немірнага развіцця рэвалюцыі. У гэтым пытанні, як і ва ўсіх іншых, наша партыя поўнасцю стаіць на прынцыпах, калектыўна сфармуляваных міжнародным камуністычным рухам у Дэкларацыі 1957 года і Заяве 1960 года.

М. С. Хрушчоў адзначае, што ў сучасную эпоху ўзніклі больш спрыяльныя міжнародныя ўмовы для разгортвання сусветнага рэвалюцыйнага руху і ўнутраныя ўмовы для пераходу новых краін да сацыялізма. Адбываецца далейшае збліжэнне і перапляценне задач народных дэмакратычных, нацыянальна-вызваленчых і сацыялістычных рэвалюцый. Логіка грамадскага развіцця прывяла да таго, што ўсе гэтыя рэвалюцыі накіраваны перш за ўсё супраць аднаго галоўнага ворага — імперыялізму, манапалістычнай буржуазіі. Цяпер практычна любая краіна, незалежна ад узроўню яе развіцця, можа стаць на шлях, які вядзе да сацыялізма. Сусветны рэвалюцыйны працэс разгортваецца ўсё шырэй, ахопліваючы ўсе кантыненты. Нагляднае гэтаму сведчанне — пераможная рэвалюцыя на Кубе.

Рабочы клас у сваёй рэвалюцыйнай барацьбе і ў далейшым сутыкнецца з рознымі апартуністычнымі плынямі, якія перашкаджаюць згуртоўванню яго сіл і дасягненню яго мэт. Вось чаму праект Праграмы падкрэслівае неабходнасць барацьбы як з ідэалогіяй сацыял-дэмакратызму і рэвізіянізму, так і з дагматызмам і сектанцтвам.

КПСС будзе і ў далейшым рабіць усё для таго, каб з гонарам выконваць свой інтэрнацыянальны абавязак перад міжнародным рабочым класам, перад працоўнымі ўсяго свету, будзе і ў далейшым накіроўваць намаганні на ўмацаванне адзінства і згуртаванасці радоў вялікай арміі камуністаў усіх краін.

Нацыянальна-вызваленчы рух уступіў у завяршаючую стадыю ліквідацыі каланіяльных рэжымаў. Дасягненне былымі калоніямі палітычнай незалежнасці аказала станоўчы ўплыў на іх эканамічнае развіццё.

Савецкі Саюз, як і іншыя сацыялістычныя краіны, не мае намеру ўмешвацца ва ўнутраныя справы маладых свабодных дзяржаў, навязваць каму-небудзь сацыялізм — экспарту сацыялізма не было, няма і не будзе. Але не павінна быць і навязвання каланіялізму, не павінна быць экспарту контррэвалюцыі.

У імперыялістычным лагеры і перш за ўсё ў Злучаных Штатах Амерыкі дзейнічаюць групы, якія паводзяць сябе як азартныя ігракі. Яны не задумваюцца над тым, якім бедствам для чалавецтва была б новая вайна, што падрыхтоўваецца імі. Ва ўмовах сусветнай тэрмаядзернай вайны страціць ранейшае значэнне фактар прасторы, і

(Заканчэнне на 4-й стар.).

